

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!
М. Багдановіч.

№ 1 (130), СТУДЗЕНЬ 2012 ГОДА

http://haradok.belarda.org - сайт нашага рэгіёна

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## МАЛЫЯ ДАХОДЫ – НЕ ВІНА БЕЛАРУСАЎ

**Кіраўніцтва краіны заяўляе, што зараз эканамічная сітуацыя дастаткова стабільная. І сапраўды, пасля мінулагодняга абвала: гіперінфляцыі і двух дэвальвацый у апошнія месяцы рубель стабілізаваўся. Аднак эксперты кажуць, што, па сутнасці, ніякіх захадаў дзеля аздараўленьня фінансавай сытуацыі не зроблена.**

Насамрэч крызіс нікуды не знік сам па сабе, а мінулы год паказаў усю тупіковасць дзяржаўнай эканамічнай мадэлі. Пры гэтым пануючы рэжым канчаткова прадэманстраваў сваю няздольнасць вырашыць эканамічныя праблемы. Паранейшаму хібы ў эканамічнай дзейнасьці ўлады намагаюцца выправіць звыклым спосабам — друкуючы грошы. А кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка працягвае спадзявацца на чарговыя мільярдныя крэдыты Масквы і продаж айчынных прадпрыемстваў.

У рэальнасці для шэрагавага беларуса не прынцыпова, як урад збіраецца выходзіць з таго тупіка, куды завёў усю краіну. На самай справе беларускага працаўніка мала цікавіць, якія там курсы валют нехта ўстанавіў на валютнай біржы. Спажывец атрымоўвае на рукі заробак у беларускіх рублях, на якія ён набывае найперш прадукты або тавары паўсядзённага попыту. А рэаліі такія, што цэны ў магазінах растуць, нягледзячы на папуліскую балбатню "бацькавых" урадоўцаў аб дасягнутай стабільнасці. І колькі б яны не зараблялі, чамусьці атрымліваецца так, што на адзін рубель можна набыць усё меней і меней тавараў.

У прыватных размовах людзі скардзяцца на тое, як абясцэньваюцца іх даходы. Надоечы двое пажылых людзей, муж і жонка распавялі, што іх мільённыя пенсіі ўжо не могуць гарантаваць нармальнага жыцця. "Амаль нічога не купляем, акрамя прадуктаў і лекаў, заплоцім за камуналку. А грошы сыходзяць, нібыта вада–ледзь хапае з чым дажыць да канца месяца", – абураецца жанчына. "У нас з мужам вышэйшая адукацыя, працоўнага стажу без малага па сорак гадоў, а цяпер выходзіць, што гэта мізэрная падачка на харчы – усё, чым нас аддзячыла дзяржава?"

Але рэальны стан рэчаў мала хвалюе цяперашняе кіраўніцтва краіны. Яму патрэбны папуліцкія меры, каб паправіць імідж, падкрэсліць асабістыя "поспехі", а ў наступствах крызісу абвінаваціць Захад і США. Менавіта па гэтай прычыне зноў пачаўся рост заробтнай платы ў снежні. Перад Новым годам адбыліся выплаты розных прэмій, надбавак да заробкаў і іншых відаў заахвочванняў. Згодна з дадзенымі Белстата, сярэднестатыстычны беларус завершыў 2011 год са снежаньскай зарплатай у 344 даляры. Для параўнання: у мінулым годзе заробкі дасягнулі да 500 даляраў.

Але і ў гэтым годзе як далі, так і аднялі. Паводле афіцыйных звестак, на 1 студзеня 2012 году рублёвая маса зноў перавысіла 43 трыльёны. У параўнанні са снежнем мінулага году прырост за месяц склаў 13%. За снежань сярэдняя зарплата павялічылася амаль на 440 тысяч рублёў і дасягнула 2 877 658 беларускіх рублёў. А гэта азначае, што дадатковыя грошы на выплату кампенсацый у сувязі з абвалам рубля і павышэння цэн пачалі прыводзіць да новага вітка абясцэньвання беларускага рубля. 25 студзеня беларускі рубель сдаў пазіцыі ўсім асноўным валютам. На сесіі Беларускай фондавай біржы даляр падаражэў на 10 рублёў да 8 360 рублёў, а еўра прыбавіў 30 рублёў і каштаваў 10 900 рублёў.

У мінулым годзе беларусы перажылі 108% інфляцыю і 200% абясцэньванне рубля. У новым годзе ўлады ўжо паспяшылі заявіць, што сацыяльныя праграмы звернуты не будуць. Золатавалютных рэзерваў хапае, па словах старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай ён наблізіўся да 8 мільярдаў даляраў. Вызначана, што мінімальны заробак не павінен быць ніжэйшы за 1 мільён рублёў. Паступова будуць пералічаны і пенсіі, якія абяцаюць павялічыць у лютым на 20%, студэнтам павысяць стыпендыі і г. д.

З усяго відаць, што пакуль манетарная палітыка ўладаў не змянілася. Але ці ёсць механізмы, здольныя ўтрымаць курс долара на ўзроўні 9 тысяч рублёў да канца 2012 года? На думку некаторых эканамістаў, такая магчымасць ёсць. Але толькі пры ўмове жорсткай эканоміі золатавалютных рэзерваў, абавязковай выплаты 3-х мільярдаў даляраў пазыкі і абслугоўвання ранейшых пазыкаў, скарачэння грашовай масы. Не трэба забываць, што знешні доўг Беларусі дасягнуў 14 мільярдаў даляраў. Напрыклад, былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч лічыць, што ўлады за кошт валютных рэзерваў ад продажу "Белтрансгаза" здолеюць адкласці эканамічны крызіс, але не пазбегнуць яго. Да таго ж ім трэба выканаць дырэктыўныя паказчыкі: запланаваны рост ВУП (валавы ўнутраны прадукта) на 5,5%. Пры такім раскладзе наўрад ці нашы тавары паспяхова пойдуць на экспарт. Хутчэй за ўсё, іх трэба будзе з большага прадаць на ўнутраным рынку. А як гэта зрабіць, калі ў беларускіх спажыўцоў нізкая пакупніцкая здольнасць, а тут яшчэ замежныя канкурэнты з таварамі больш высокай якасці. Каб не прыйшлося зноў павялічваць зарплату, а ўслед за гэтым працягнецца дэвальвацыя. Ці наступіць нарэшце мяжа у гэтых бясконцых гульнях у эканоміку?

**Аляксандр Шчамлёў.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## НЕ СПЫНЯЕЦЦА БАРАЦЬБА З САМАГОНШЧЫКАМІ

**Праблема з вырабам і збытам самагону працягвае быць адным з галоўных клопатаў шумілінскіх міліцыянераў. Акрамя таго, супрацоўнікамі міліцыі выяўлены асобы, якія займаюцца продажам фальсіфікаванага алкаголю. Нягледзячы на тое, што і пакупнікам, і прадаўцам пагражаюць буйныя штрафы, аматары злачыннага "бізнесу" працягваюць сбыт атруты нашым землякам.**

Непрымірымая барацьба з самагонаварэннем дала свой плён. У нашым раёне за мінулы год супрацоўнікамі РАУС было канфіскавана 5 016 літраў фальсіфікаваных напояў, у тым ліку чатыры тысячы літраў самагону і самагоннай брагі. У ходзе правядзення аператыўна-прафілактычных мерапрыемстваў выяўлены 19 фактаў незаконнага захоўвання спіртных напояў хатняга вырабу. Парушальнікі закона прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці – усе вінаватыя асобы аштрафаваныя да пяці базавых велічынь.

Безумоўна, прымаемыя меры даюць станоўчы эфект, але ён яшчэ не вельмі істотны. На некаторых грамадзян ніяк не ўплывае і стрымліваючы фактар: штраф да 30 базавых велічынь, калі незаконны прадавец спіртаўтрымліваючай вадкасці пападзеццца паўторна, на працягу года. Злабадзённасць праблемы яшчэ і ў тым, што набываць спіртовую атруту на "кропку" ідуць тады, калі не дабралі неабходную "дозу" ў мясцовай краме.

У тым, што павальнае п'янства ахапіла раён, вінаваты не толькі людзі, але і дзяржава.

На вялікі жаль, улада пакуль не можа знайсці іншыя крыніцы даходаў і рэальна прыняць пэўныя меры для барацьбы з п'янствам, каб адмовіцца ад часткі велізарных сродкаў, якія паступаюць у бюджэт за кошт алкаголю. З аднаго боку, улада літаральна завалiла паліцы магазінаў таннай віннагарэлачнай прадукцыяй, якое называюць у народзе "бырла". Менавіта яно дае ільвіную долю выручкі гандлю. З другога боку, папуліцкія кампаніі па барацьбе з п'янствам: дырэктывы, Дэкрэты, пакаранні. І ў тым, і ў другім выпадку дзяржава зарабляе, прадаючы спіртное, а ў барацьбе з пьянствам – у бюджэт ідуць грошы са штрафаў.

Відавочна, што адной барацьбы з нелегальным вытворцамі і прадаўцамі спіртнога, у тым ліку самагоншчыкамі мала. І тут няма асаблівых праблем. У дзяржавы дастаткова паўнамоцтваў для таго, каб за месяц адбіць ахвоту прадаваць самагонку. Хіба сам кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка не казаў аб скарачэнні вытворчасці пладова-ягадных він? Напрыклад, летась у чэрвені- ліпені на Случчыне (праўда ў якасці эксперыменту) забаранілі продаж таннага віна. Нешта не чуваць голасу грамадскасці пра падобныя ініцыятывы ў нашым раёне. Дарэчы, ад атручвання няякасным алкаголем у нашым раёне летась памерлі 13 чалавек.

**С. Горкі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## Людзі скардзіліся на работу камунгасу

**Чарговы прамы тэлефонны дыялог правёў нядаўна кіраўнік раёна Уладзімір Куранны. На гэты раз па дапамогу звярнуліся ўсяго дзесяць чалавек. Пытанні былі розныя, іх задавалі і шумілінцы, і вяскоўцы. Але ўсе прэтэнзіі тычыліся нездавальняючай работы камунальнікаў.**

Асаблівую актыўнасць падчас прамой лініі праявілі жыхары з вуліцы Юбілейнай. Прычым адна жыхарка з дома № 57 паскардзілася старшыні райвыканкама не толькі на дрэнную якасць рамонтных работ, але і на нізкую культуру асобных спецыялістаў камунгасу. Іншыя гаспадыні дома № 27 прасілі вырашыць праблему забяспячэння кватэр 28-54 гарачай вадой.

Сваю незадаволенасць да работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі выказала і жыхарка з дома № 78 па вуліцы Сіпко. Спадарыня наракала на бездапаможнасць камунальнікаў, якія не могуць адрамантаваць нават люк у пад'ездзе.

Нядаўна прызначаны на пасаду Генадзь Куранны ўжо казаў на сходах, што кіраўнік раёна не павінен займацца дробязнымі пытаннямі, бо на гэта ёсць адпаведныя службы. Але што рабіць людзям, калі на месцах праблемы не вырашаюцца, а надварот – тыя службы стараюцца іх яшчэ і завалакіцідзь?

Праўда, падчас размовы паступілі і больш трывожныя сігналы, якія не засталіся па-за ўвагай і будуць вырашацца. З просьбай дапамагчы з ацяпленнем дома № 2 па вуліцы Вакзальнай звярнулася грамадзянка Т. Кляцкова. Жанчына паведаміла, што батарэі зусім не грэюць. Каб павысіць тэмпературны рэжым у памяшканні, хутчэй за ўсё прыйдзецца пераробляць сістэму ацяплення. Але кардынальнае рашэнне праблемы патрабуе значных бюджэтных сродкаў. Тым не менш, пытанне ўзята на кантроль.

Разам з тым кіраўнік раёна параіў дырэктару жыллёва-камунальнай гаспадаркі В. Коўзану больш уважліва адносіцца да зваротаў жыхароў. Нямала выпадкаў, калі на абгрунтаваныя пісьмовыя звароты грамадзян у адказ з УП ЖКГ паступаюць фармальныя адпіскі. Дарэчы, гэтая прамая лінія засведчыла, што людзі яшчэ спадзяюцца з дапамогай раённай улады вырашыць свае вялікія і малыя праблемы. Звычайна на прамую лінію адводзіцца дзве гадзіны – гэта дазваляе выслухаць у сярэднім каля 20 тэлефонных зваротаў. А цяпер быць ўдвая менш. Можа стала менш нявырашаных праблем, або людзі сталі менш звяртацца? А магчыма тыя, што звярталіся, перасталі гэта рабіць, калі часцей пачулі ў адказ: "Няма тэхнікі. Скончыліся грошы. Няма каму рабіць – звольніўся спецыяліст".

**Алесь Шумскі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

# Вынікі падвялі, а планы адобрылі адзінагалосна

**На чарговай сесіі Дабейскага сельсавета дэпутаты заслухалі справаздачу старшыні сельвыканкама і прынялі рашэнні на 2012 год. У рабоце сесіі прынялі ўдзел старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Аляксандр Ацясаў і старшыня раённага Савета дэпутатаў Ірына Новікава.**

У апошні час аб эфектыўнасці работы мясцовых органаў самакіравання праходзіць шмат дыскусій як у дзяржаўным друку, так і ў свабодный прэсе. І гэта цалкам апраўдана, бо самую аб'ектыўную ацэнку як асобных дэпутатаў, так і Саветаў у цэлым дасць сам выбаршчык. Што ж зроблена за міжвыбарчы перыяд Дабейскім сельсаветам?

У сваім дакладзе старшыня сельсавета Ірына Шалахава агучыла лічбы і факты, якія адлюстроўваюць зробленае мясцовымі органамі ўлады. На тэрыторыі сельсавета размешчаны тры прадпрыемствы, ад якіх у асноўным залежыць дабрабыт насельніцтва. Таму размова вялася аб паказчыках іх дзейнасці. Кіраўніцтва мясцовай улады непакоіць тое, што калі ў ААТ "Прыазёрны мір" і "Ляжні" дасягнулі поспехаў па некаторым параметрам, то ў ААТ "Шумілінскі льнозавод" не выканалі планавыя заданні. У прыватнасці, адной з прычын праваленых планаў паслужыла нізкая якасць льнотрасты. Ужо каторы год нашы льнаводы ніяк не навучацца працаваць згодна з патрабаваннямі тэхналогіі. Тут важна не дапусціць парушэнне працэсу, пачынаючы ад падрыхтоўкі насеннага матэрыяла з тым, каб у раннія тэрміны пачаць цераблення, даць належную вылежку і да 5-10 верасня закончыць уборку. Толькі тады мы будзем мець добрыя вынікі на льнозаводзе і ў раёне.

Пад пільнай увагай кіраўніцтва сельсавета знаходзіцца арганізацыя закупу малака ў насельніцтва. Але па прычыне скарачэння колькасці насельніцтва і яго старэння, цяжкасцяў у апрацоўцы зямельных надзелаў намеціліся такія тэндэнцыі, як скарачэнне вытворчасці вяскоўцамі асобных відаў сельгаспрадукцыі, змяншэнне пагалоўя на падворках, павелічэнне колькасці гаспадарак, у якіх не гадуецца жывёла, спад інтарэсу да землеробства.

Як вядома, колькасць асабістых падворкаў з года у год няўхільна зніжаецца. І хаця ў разліку на адну карову было здадзена дзяржаве 2800 кілаграмаў малака, то пра ніякі рост няма чаго і думаць. А маладыя сем'і, якія засяляюць домікі аграгарадка Амбросавічы, як правіла, не трымаюць жывёлу і птушку і таму забяспечыць рост валавой прадукцыі не могуць.

Якія меры прымаюцца для паляпшэння сітуацыі? Сельвыканкамам штогадова засцярджаецца Палажэнне аб умовах матэрыяльнага стымулявання закупу малака, якое прадугледжвае заахвочванне людзей за дасягненне лепшых паказчыкаў.

Каб без праблем штогод праходзіла ўборка збожжа ў асабістых гаспадарках, сельсавет агітуе прыватных гаспадароў здаваць свае соткі ў фонд калгаснага севазвароту. Галоўнае – паўсюдна спрацаваць так, каб выкарыстоўваць зямельныя рэсурсы з максімальнай эфектыўнасцю, а хто будзе суб'ектам гаспадарання на зямлі не так важна. Каля 70 прыватнікаў ужо адмовіліся ад самастойнай сяўбы на карысць агульнай справы.

У плане добраўпарадкавання кіраўнік сельвыканкама Ірына Шалахава акрэсліла праблемы аддаленых вёсак. Былі закрануты пытанні недастатковага водазабеспячэння пітной вады, вываз смецця з могілак, спілоўванне аварыйных дрэў, работа гандлю.

Патрэбна працягваць прыводзіць у прыстойны выгляд пустыя ўчасткі, зносіць напаўразбураныя будыніны, у якіх даўно ніхто не жыве, гаспадароў няма, а спадчыннікі не адгукаюцца.

З выступленняў кіраўнікоў гаспадарак, бадай што, вызначыўся дырэктар "Прыазёрнага міру" Васіль Юхнавец. Ён абнадзеіў прысутных, што да канца 2012 года заробак калгаснікаў саставіць не менш як два мільёны рублёў. Надта сціплы паказчык, калі параўнаць з лічбамі Белстата. Днямі нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў, што ў снежні заробак у Беларусі склаў 2 млн. 877 тыс. 658 рублёў (345 даляраў). Лічбы агучылі, а ці вераць самі кіраўнікі ў тое, што кажуць людзям?

І бадай, самае галоўнае. Нешта на сесіі зусім не было чуваць голасу дэпутатаў, якія павінны былі ўзняць праблемы жыхароў тых участкаў, на якіх яны балатуюцца. А можа дэпутаты наогул не патрэбны?

**Уладзімір Амбросаў.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# САБАКАМ – САБАЧАЙ СМЕРЦІ

**Шумілінскія камунальнікі знішчаюць бадзяжных сабак жорсткімі метадамі. Бываюць выпадкі, калі адстрэл жывёл вядзецца прама на вачах у жыхароў райцэнтра. Як правіла, пасля такіх "зачыстак" нярэдка здараецца маральныя траўмы ў грамадзян, якія па-людску шкадуюць "братоў нашых меншых".**

У Шуміліне і іншых буйных мястэчках раёна зграю бяздомных сабак можна сустрэць на кожнай вуліцы. На ўскрайку горпасёлка яны частыя наведвальнікі, бо галодныя, шукаюць ежу па дварах і хлявах, на вуліцах выграбаюць сметніцы. Нахабныя без меры, могуць напалохаць жанчыну або дзіця, кінуцца пад ногі. На сяле ў большасці выпадкаў безнаглядныя сабакі знішчаюць хатніх птушак ці дробную жывёлу.

У нашым раёне бадзяжных сабак і катоў адстрэльваюць камунальнікі пры дапамозе спецыяльных шпрыцоў з атрутай. Але ў гэтым выпадку зразумела ўсім, што тут павінна прысутнічаць усё ж такі нейкая гуманнасць. Нядаўна ў рэдакцыю патэлефанавала адна ўсхваляваная жанчына, якая не можа супакоіцца пасля ўбачанай расправы над сабакам. Няўжо нельга пазбавіць людзей такога дзікага відовішча, як адстрэл сабак, і наладзіць іх адлоў? Здараецца , што сведкамі такога "дзікага палявання", а дакладней забойства становяцца дзеці. Якімі яны вырастуць, прывыкаючы да такіх з'яў?

Абаронцы жывёл кажуць, што знішчэнне бяздомных жывёл супярэчыць практыцы, прынятай у еўрапейскіх краінах. Аднак акцыі супраць бадзяжных сабак у Шуміліне сведчаць пра тое, што не выконваюцца патрабаванні нават і беларускага заканадаўства. Існуе Пастанова Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ад 29 снежня 2001 года "Аб зацвярджэнні Палажэння пра парадак дзейнасці па адлову, адстрэлу і эўтаназіі бездаглядных жывёл у РБ".

Палажэнне прадугледжвае, што пры правядзенні гэтай працэдуры трэба кіравацца прынцыпамі гуманнасці. Адлоўленыя жывёлы павінны ўтрымлівацца пяць дзён у спецыяльна абсталяваных памяшканнях. Арганізацыя, якая ажыццяўляе адлоў, павінна прыкладаць намаганні па пошуку гаспадароў злоўленых жывёл.

Дарэчы, пра гаспадароў. Згодна з правіламі ўтрымання хатніх жывёл, кожны грамадзянін павінен рэгістраваць катоў і сабак у адпаведных службах. На сённяшні дзень зарэгістравана 150 сабак і 60 катоў. З насельніцтвам раёна ў 23 тысячы чалавек – гэта наўпрост адзінкавыя прыклады.

Між тым, у большасці бадзяжнык сабак і катоў былі гаспадары. Сітуацыя звязана з нізкай культурай насельніцтва: нагуляліся і кінулі. Насамрэч, не ўсё так проста. Верагодна гэта звязана і з эканамічным станам людзей, якія проста не могуць утрымліваць жывёл. Чым карміць, калі самому гаспадару ежы не хапае.

Праўда, з боку камунгаса прымаліся нейкія меры па стварэнню часовага пункта ўтрымання адлоўленых жывёл. Але ж затым аказалася, што ў бюджэце хапіла грошай толькі на прылады для адстрэлу, а не на сабачае жытло. Зараз пра вальеры, часовы прытулак і спецыяльную брыгаду па адлову бадзяжных жывёл даводзіцца толькі марыць.

Праблема бадзяжных сабак – у прыватнасці, сапраўды сур'ёзная. Каб вырашыць праблему павелічэння безнаглядных жывёл, перш за ўсё неабходна памятаць, што мы ў адказе за тых каго прыручылі. Дарэчы, у суседнім Гарадоцкім раёне пасля неаднакратных зваротаў грамадзян наконт безпрытульных сабак зараз створаны прытулак і бадзяжных жывёл адлоўліваюць.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# КРУГЛАСУТАЧНЫ РЭЖЫМ ПАВЯЛІЧЫЦЬ КЛІЕНТУРУ?

**Абвастрэнне канкурэнцыі сярод гандлёвых кропак раёна вымушае райспажыўтаварыства шукаць новыя магчымасці больш якаснага абслугоўвання пакупнікоў. Днямі крама "Юбілейны" была пераведзена на кругласутачную работу.**

Кіраўнікі райпо спадзяюцца, што такая форма работы гандлёвай кропкі значна павялічыць наплыў наведвальнікаў. Канкурэнтныя перавагі гэтай крамы ¬– удалае размяшчэнне ў густанаселеным новым мікрараёне гэтак званага Верхняга горада. Апроч таго, каля прыдарожнай крамы праходзіць траса Віцебск-Полацк. Перадусім у памяшканні магазіна былі зроблены пэўныя перастаноўкі, устаноўлена сучаснае гандлёвае і халадзільнае абсталяванне.

Што павінна змяніцца ў лепшы бок? Раней такія магазіны больш вабілі своеасаблівую катэгорыю кліентаў – аматараў выпіць лішняга. І сапраўды, некалі кругласутачныя магазіны – начнікі садзейнічалі распаўсюджванню начных п'янак. Зараз сітуацыя змянілася. Грошы абясцэніліся, а заробкі знізіліся. А цэны, у тым ліку і на спіртовыя напоі выраслі ў разы. Таму больш збяднелыя насельнікі раёна ў такія магазіны наўрад ці завітаюць.

У асноўным пасля працы познім вечарам і да паўночы робяць пакупкі найбольш занятыя і забяспечаныя спажыўцы. Да начнога ладу жыцця прывычаіліся у вялікіх гарадах. Аднак ці многа такіх знойдзецца ў горпасёлку Шуміліна? Першыя разлікі паказалі, што няшмат. Выручка ў начны час у магазіне "Юбілейны" саставіла ад 500 тыс. да 1 мільёна рублёў.

Пакуль што ад таго, што наладзілі кругласутачную працу гандлёвай кропкі выйгралі нямнога. Як не выйгралі і ад таго, што дазволілі на вёсцы хадзіць у мясцовы магазін зусім без грошай. Прадукты калгаснікам адпускаюць, а прозвішча працаўніка арганізацыі запісваюць у плацёжную ведамасць. Затым у бухгалтэрыі за набыты тавар вылічваюць неабходную суму з палучкі. Аднак вядома, што для рэнтабельнай працы гандлю патрэбны жывыя грошы.

**Алесь Прыбярэжны.**

ЭКАНОМІЯ НА ХВОРЫХ

# КУРС НА СКАРАЧЭННЕ СТАЦЫЯНАРНЫХ ЛОЖКАЎ

**У медычных установах раёна адбудуцца змены, скіраваныя на эканомію бюджэтных сродкаў. Шумілінскім чыноўнікам загадалі колькасць стацыянарных ложкаў са 140 да 114. Дазволілі трымаць пад апекай медыцынскага персаналу не болей трыццаці старых, якія патрабуюць кругласутачнага догляду.**

Расходы на сацыяльную абарону насельніцтва, відома, залежаць ад магчымасцяў эканомікі. Эканамічны цуд, абяцаны ўладамі хутка скончыўся, нават і не пачаўшыся. Адпаведна гэта ў першую чаргу адбілася на памерах сацыяльных гарантый і льготах маламаёмасных і неабароненых пластоў насельніцтва.

Насельніцтва нашага раёна імкліва старэе. У той час, як сённяшняя сетка стацыянарных установ сацабслугоўвання не забяспечвае патрэб людзей. Асабліва бракуе месцаў для інвалідаў і пажылых, якім неабходна пастаянная дапамога ў стацыянарных умовах.

Так, зараз пад апекай ведамства Шумілінскай ЦРБ знаходзіцца 54 чалавекі на сацыяльным ложку і яшчэ 10 чакаюць уладкавання. Афіцыйна дазволена трымаць пад апекай медыцынскага персаналу не болей трыццаці старых, якія патрабуюць кругласутачнага догляду.

Старыя людзі – кантынгент для цяперашняй улады яўна "нявыгадны". Мізерная пенсія, 90% якой хворы чалавек аддае за знаходжанне на сацыяльным ложку, пакрывае толькі 32% ад сумы на яго ўтрыманне ў бальніцы. У сувязі з гэтым эканамічны эфект плануюць дасягнуць скарачэннем сацыяльных ложкаў: 12 месцаў пры Мікалаеўскай участковай і 8 – у Обальскай бальніцы, 10 – пры бальніцы сястрынскага догляду ў Мішневічах.

Між іншым, яшчэ ў мінулым годзе абласныя ўлады заахвочвалі старых перасяляцца ў інтэрнаты і бальніцы. Ва ўстановах аховы здароўя Віцебшчыны планавалася стварыць 360 сацыяльных ложкаў. Нават падлічылі, што рэалізацыя гэтых мераў дазволіць зэканоміць як мінімум 6 мільярдаў рублёў за кошт сродкаў на расчыстку дарог у аддаленыя вёскі і скарачэння маршрутаў сацыяльных работнікаў. Аднак інфляцыя з'ела грошы, а сацыяльны інтэрнат або дом састарэлых на Шуміліншчыне так і не пабудавалі. Пакуль што адзіноцтва старых стараюцца сагрэць сацыяльныя работнікі. Надомнае абслугоўванне дазволіла многім састарэлым людзям застацца пражываць у сваіх кватэрах, у звыклай для іх, камфортнай абстаноўцы.

Як бачым, сацыяльныя стандарты на паперы і ў жыцці значна адрозніваюцца.Нам кажуць, што скарачэнне ложкавага фонду – гэта не так страшна, што маўляў, такім шляхам ідзем да еўрапейскай мадэлі мадэлі абслугоўвання. Але ж хіба можна механічна пераносіць стандарты Заходняй Еўропы на нашу беларускую глебу? Проста скараціць ложкі можна. Аднак у нас зусім іншы ўзровень захворваемасці, інвалідызацыі, нават іншая прырода хваробаў, што непасрэдна ўплывае на формы і метады лячэння. Акрамя таго, ці здольна нашая медыцына на сённяшняй базе забяспечыць патрэбную ступень інтэнсіўнага лячэння, так бы мовіць на ўзроўні "еўра-стандарту"?

**Алесь Шумскі.**



ТАКАЯ АСОБА

# ПЕРАМОГА ЦІ ПАРАЗА?

ПАКАРАНЬНЕ МІКОЛЫ СТАТКЕВІЧА ТРЫМА ГАДАМІ ТУРМЫ СТАЛА КУЛЬМІНАЦЫЯЙ АРГАНІЗАВАНАГА ЎЛАДАМІ ПРЭСІНГУ НА ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ. ЛАДЗІЦЦА ТАКСАМА ЖОРСТКІ ЦІСК НА АНДРЭЯ САНЬНІКАВА, ЗЬМІТРА ДАШКЕВІЧА, МІКОЛУ АЎТУХОВІЧА, ЗЬМІТРА БАНДАРЭНКУ. ЗДАЕЦЦА, УЛАДЫ НЯ ТОЛЬКІ ГЭТАГА НЕ ХАВАЮЦЬ, АЛЕ НАВАТ РОБЯЦЬ УСЁ ДЭМАНСТРАТЫЎНА.

На прэсавай канфэрэнцыі 23 сьнежня Лукашэнку некалькі разоў задавалі пытаньне пра лёс палітзьняволеных. Сэнс яго адказаў быў такі: няхай пішуць прашэньне аб памілаваньні, а я падумаю.

У чым лёгіка такой расправы над вязьнямі? Навошта ўлады імкнуцца маральна зламаць іх?

Улады мяркуюць, што факт напісаньня прашэньня дыскрэдытуе гэтых палітыкаў у вачах дэмакратычнай супольнасьці і электарату. Такім чынам Лукашэнка пазбавіўся б патэнцыйных канкурэнтаў. Гэта таксама і папярэджаньне Захаду. Маўляў, ня хочаце падобраму, дык глядзіце, мы можам і па-кепскаму.

Але найперш расправа над вязьнямі адлюстроўвае асаблівасьці псыхалягічнага стану Аляксандра Лукашэнкі, ягоных уяўленьняў пра сьвет, матчыма, комплексаў.

Ён атрымлівае маральнае задавальненьне, калі бачыць зламанага ворага, калі палітычныя апанэнты альбо проста вядомыя людзі, якія трапілі за краты, просяць яго аб міласьці. Прашэньне аб памілаваньні прапаноўвалі напісаць Паўлу Шарамету, Васілю Старавойтаву, Васілю Лявонаву, Аляксандру Казуліну. Узгадайце, як Аляксандар Лукашэнка захацеў сустрэцца зь Яраславам Раманчуком, паглядзець на яго адразу пасьля вядомага выступу таго па тэлевізіі.

Лукашэнка атрымлівае задавальненьне ад чыёйсьці залежнасьці ад яго. Ягонае ўяўленьне пра ўладу сягае ў сярэднявечча. Беларусь — як удзельнае княства. Караць і міласаваць — гэта найважнейшы атрыбут улады. І размовы пра незалежны суд — гэта замах на ўладныя прэрагатывы правадыра.

Акрамя таго, Аляксандар Лукашэнка мае даволі спэцыфічнае ўяўленьне пра палітычную барацьбу. Ён разглядае яе як змаганьне характараў, спаборніцтва сіл волі. Палітыка для яго — гэта барацьба на зьнішчэньне. Галоўнае ў палітыцы — выйсьці пераможцам.

Памятаеце той анэкдот, які расказаў кіраўнік АНТ Кісель на прэсавай канфэрэнцыі Лукашэнкі 23 сьнежня па настойлівай просьбе прэзыдэнта?

Нагадаю сюжэт: Абама, Мядзьведзеў і Лукашэнка плывуць у лодцы. Узьнікае пытаньне: каму грэбсьці? Прапаноўваецца прагаласаваць. У выніку выбараў перамог Лукашэнка.

Анэкдот яўна антылукашэнкаўскі. Ён выкрывае «выбары па-беларуску». Але самому Лукашэнку анэкдот спадабаўся. Мала таго, што ён апынуўся ў саліднай кампаніі, але і стаўся там пераможцам, абдурыў кіраўнікоў вялікіх дзяржаў.

Выходзіць, што перамог лідэраў вялікіх дзяржаў, а тут вязьняў перамагчы ня можа. Яны не здаюцца, ня хочуць пісаць прашэньне. Гэта злуе і выклікае жаданьне ўзмацніць ціск.

Але барацьба са зьняволенымі не дадасьць Лукашэнку ніякіх палітычных дывідэндаў нават у вачах ягоных прыхільнікаў. Бо ўсе бачаць тут асабістую помсту, жорсткасьць. І выклікае гэта толькі спагаду да ахвяраў дыктатуры.

**Валер Карбалевіч.**

НАША ЎЛАДА

# «... ЛЮДИ, ВСКОРМЛЕННЫЕ БЕЛОРУССКОЙ ДЕРЕВНЕЙ, ОТОРВАЛИСЬ ОТ НАРОДА!»

В БЕЛАРУСИ ВНОВЬ БЕЗ ВСЯКОЙ ПРИЧИНЫ СЛУЧИЛСЯ ПРАЗДНИК. ШУМНО, ЯРКО И С РАЗМАХОМ ПРОХОДИТ ОЧЕРЕДНОЙ ХОККЕЙНЫЙ «РОЖДЕСТВЕНСКИЙ ТУРНИР». В КАКУЮ СУММУ ОБОЙДЕТСЯ ЭТО ЛЕДОВОЕ ШОУ ПРЕСТАРЕЛЫХ СПОРТСМЕНОВ, СКАЗАТЬ НИКТО НЕ МОЖЕТ, ПОСКОЛЬКУ ОСНОВНЫЕ СЧЕТА, КАК ВЫЯСНЯЕТСЯ, БУДУТ ОПЛАЧЕНЫ ПО ФАКТУ. НО УЖЕ ОЗВУЧЕН МАЛЕНЬКИЙ ШТРИХ К ИТОГОВОЙ СМЕТЕ, ПОЗВОЛЯЮЩИЙ ОЦЕНИТЬ МАСШТАБ ГУЛЯНИЙ. ТОЛЬКО НА УКРАШЕНИЕ ДВОРЦА СПОРТА ПОНАДОБИЛОСЬ 90 МИЛЛИОНОВ РУБЛЕЙ… НЕ ПОСКУПИЛИСЬ!..

Государственные СМИ в восторге, новости о ходе хоккейных баталий забили все телевизионные эфиры. Такое ощущение, что кто-то и вправду верит, будто страна в эти дни застыла в ожидании очередной шайбы от какого-нибудь давно ушедшего на пенсию спортсмена, или искренне радуется за труженика госслужбы, имеющего так много свободного времени, что его вполне хватает на серьезные занятия спортом.

Как же быстро эти люди, вскормленные белорусской деревней, оторвались от народа! Как быстро перестали уважать народ, из которого вышли, и просто считаться с ним!

Мы прожили год тяжелейшего кризиса, все обеднели, у многих (кто набрал кредитов) оказались неподъемные долги, тысячи семей просто похоронили надежду хоть когда-нибудь построить квартиру... Немало людей, которые не могут позволить себе покупку нормальных витаминов и лекарств, мерзнут в очередях за дешевым молоком и хлебом, килограмм мандаринов, купленных на Новый год, делят на много дней как величайшее лакомство и драгоценность… А президент со товарищи, как ни в чем не бывало, играет в хоккей. Гостей из разных стран назвали и принимаем по-богатому. Ну кто поверит, что в стране кризис и режим экономии на всем, если таких денег не жалко на матчи каких-то ветеранов-любителей?

Впрочем, хоккейный праздник на глазах людей, стремительно продвинувшихся от бедности к нищете, еще можно было стерпеть, если бы и многое другое не пошло в нашей стране по-дурному. Вспомните, как в прошлом году Генеральный прокурор снял главврача лидской больницы. Приехала в Лиду комиссия и увидела, что больные лежат прямо в коридорах, палаты переполнены, плесень, грибок, гнилые окна, протекающие потолки… Нашли виновного -- главврача. Но разве от него все зависит? Разве он может построить в Лиде новую больницу? Разве он давал команду строить в городе не больницу, а Ледовый дворец? У врачей, учителей, пенсионеров, живущих в Лиде, кто-нибудь вообще спрашивал, в чем они больше нуждаются -- в дорогостоящем катке или в простенькой, но сухой и чистенькой больнице с достаточным количеством палат?

Когда в Барановичах возводили Ледовый дворец, ктонибудь заикнулся, что гораздо важнее закупить новую технику для местного онкоцентра? Устроили грандиозное строительство, а теперь не знают, как и кого в этот дворец загонять. В то же время более 20 лет в этих самых Барановичах используется один и тот же аппарат для лучевой терапии. И совершенно естественно, что в конце концов этот «дедушка-труженик» сломался. Вот уже больше месяца онкологические больные в Барановичах не могут получить элементарную помощь. Их отправляют или в Брест, или в Пинск, но ведь там оборудование тоже не простаивало, там и для своих пациентов к этим «гамма-терапевтическим машинам» очередь.

Только вдумайтесь: в целом регионе людям, больным раком, наша медицина не может обеспечить важнейшего -- лучевой терапии!.. Это значит, что многих оставляют просто умирать, что для многих проведенные операции окажутся бесполезными. Однако судьба этих людей волнует только их родственников, местных врачей и немногих независимых журналистов.

Зато «Рождественский турнир» государство вновь проводит с восторгом и размахом. Один из организаторов соревнований -- Президентский спортивный клуб -- не скромничая, сообщил, что эти любительские состязания -- «уникальное действо, не имеющее аналогов на планете». И ведь действительно уникальное и не имеющее аналогов. Потому что мало осталось в мире государств, где власть может куражиться в таких дорогих забавах.

**Светлана КАЛИНКИНА, «Народная воля».**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# МОЖАМ ЗНОЎ УБАЧЫЦЬ ІМІТАЦЫЮ

ЛІДАР РУХУ "ЗА СВАБОДУ" АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ ПРАКАМЕНТАВАЎ ЗАЯВЫ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ Ў ІНТЭРВ'Ю КІТАЙСКІМ СМІ ПРА ГАТОЎНАСЦЬ ПРАВЕСЦІ РЭФОРМУ ПАЛІТЫЧНАЙ СІСТЭМЫ.

«Улады апынуліся ў сітуацыі, калі і хочацца і колецца. Яны добраахвотна ніколі б нічога не мянялі, бо баяцца рэформаў, сацыяльна-эканамічных і палітычных, і ўвесь час адкладаюць іх. З іншага боку, без падтрымкі Еўрасаюзу тыя самыя эканамічныя рэформы немагчымыя. А Брусэль патрабуе палітычнай лібералізацыі», - зазначае Аляксандр Мілінкевіч.

На ягоную думку, вельмі верагодна, што «мы зноў убачым гульню ў дэмакратызацыю, імітацыю». Напрыклад, мажарытарная сістэма выбараў у парламент будзе зменена на прапарцыйную, але галасы пры гэтым будуць лічыцца па-старому, кажа Мілінкевіч.

«Сапраўдны дэмантаж састарэлай палітычнай сістэмы магчымы толькі пасля вызвалення палітвязняў і поўнага спынення рэпрэсій, а таксама ўнутранага грамадска-палітычнага дыялогу, вынікам якога павінны стаць мадэрнізацыя заканадаўства і, галоўнае, якаснае змяненне прынцыпаў яго правапрымянення», - заявіў лідар Руху "За Свабоду".

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# ЗАЯВЫ ІРЫНЫ ХАЛІП

24 СТУДЗЕНЯ Ў ВІЦЕБСКАЙ КАЛОНІІ «ВІЦЬБА-3» АДБЫЛОСЯ КАРОТКАТЭРМІНОВАЕ СПАТКАННЕ ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ БЕЛАРУСІ АНДРЭЯ САННІКАВА З СВАЯКАМІ — ЖОНКАЙ ІРЫНАЙ ХАЛІП І МАЦІ АЛАЙ САННІКАВАЙ.

25 СТУДЗЕНЯ ІРЫНА ХАЛІП ПРАВЯЛА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЮ. ЗАДАЧА ЛУКАШЭНКІ — НЯ ВЫПУСЬЦІЦЬ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ ЖЫВЫМІ — ЛІЧЫЦЬ ІРЫНА ХАЛІП.

З тэкста заявы Ірыны Халіп: «Пасьля трох месяцаў поўнай ізаляцыі я змагла ўбачыць мужа ў турме. У пятніцу, праўда, яго бачыў адвакат, але і адвакат, і Андрэй Саньнікаў былі папярэджаны адміністрацыяй калёніі, што, калі іх размова выйдзе за рамкі крымінальнай справы і наглядных скаргаў, то сустрэча будзе перапынена і больш адвакаты не атрымаюць да яго доступу. Іх папярэдзілі, што сустрэча адваката і падабароннага будзе праходзіць пад аўдыёі відэазапіс і пад наглядам прадстаўніка адміністрацыі. Менавіта таму адвакатка пасьля рапартавала, што Андрэй нібыта «выглядае нядрэнна і скаргаў на здароўе ня мае». Гэта таксама было ўмоваю.

Калі ж я ўчора ўбачыла Андрэя, мяне ўзрушыла, наколькі змардаваным ён выглядае. Гэта чалавек, які за тры месяцы прайшоў мінімум 10 гадоў сталінскіх лягераў.

Ягоная маці, якая таксама была на спатканьні, усе 4 гадзіны дарогі назад з калёніі плакала. Таму што першай сынавай фразаю былі словы: «Я не спадзяваўся, што яшчэ калі-небудзь цябе ўбачу».

Андрэй ня мог мне нічога сказаць канкрэтна. Было відаць, што яму гэта забаронена. «Мая адседка скончылася ў верасьні. Далей пачаліся катаваньні», — толькі й сказаў Андрэй.

Нагадаю, што ў верасьні яго перакінулі з Навапалацкай калёніі спачатку ў Віцебскую турму, затым у Магілёўскую турму, потым у Бабруйскую калёнію, затым зноў у Магілёўскую турму і, нарэшце, у калёнію «Віцьба-3».

Увесь гэты час Бог ведае, што зь ім адбывалася. Але відавочна, што яго катавалі.

Андрэй даў мне зразумець, што яшчэ ў Магілёўскай турме, куды яго прывезьлі 16 лістапада, яму пагражалі забойствам мяне і нашага чатырохгадовага сына. Калі гэтым яшчэ ў турме КДБ ня грэбаваў сам спадар Зайцаў, то ці варта дзівіцца, што падначаленыя скарыстоўвалі яго мэтады.

Андрэй разумее, у якім цяжкім становішчы я знаходжуся. Улічваючы камэндацкую гадзіну паводле судовага выраку, я абавязаная адчыняць дзьверы позьнім вечарам, калі яны звоняць з словамі: «Адчынеце, міліцыя!». Так да мяне можа прыйсьці хто хаця, і я не змагу не адчыніць дзьвярэй.

Андрэй гатовы памерці сам, але не дазволіць прычыніць шкоду нам з Данем. Такім чынам яшчэ 20 лістапада зь яго выбілі прашэньне на імя Лукашэнкі.

А цяпер давайце задамося пытаньнем, чаму ж Лукашэнка, атрымаўшы гэткую жаданую паперку, не размахваў ёю на прэс-канфэрэнцыі ў сьнежні, калі казаў, што палітвязьні не хочуць пісаць прашэньня і таму сядзяць. Яны ня хочуць пісаць, але зь іх выбіваюць гэтыя прашэньні катаваньнямі і пагрозамі. Тым больш, што, у адрозьненьне ад усіх астатніх, у Андрэя маленькае дзіця і жонка, засуджаная з адтэрміноўкаю.

Відавочна, што Лукашэнку зусім не былі патрэбныя прашэньні аб памілаваньні. Гэта «адмазка» для журналістаў, якія задаюць яму пытаньні. У яго іншая задача. Яго задача — ня выпусьціць палітвязьняў жывымі. Калі б Лукашэнку патрэбныя былі паперкі зь іх подпісамі, няўжо ён бы не скарыстаўся паперкаю з подпісам ягонага наймацнейшага суперніка? Няўжо ён прамаўчаў бы пра гэта на прэс-канфэрэнцыі ў канцы сьнежня?

Але ён прамаўчаў. І гэта лішні раз даказвае, што яго сапраўдная задача — фізычнае зьнішчэньне сваіх супернікаў. З гэтай самай мэтаю ў магілёўскую турму, далей ад магчымых сьведкаў, адправілі й Міколу Статкевіча. Таму й не адпускаюць хворага Зьмітра Бандарэнку.

На развітаньне Андрэй прыклаў да шкла запіску, дзе было напісана: «Гаворка ідзе аб выратаваньні жыцьця. У любы момант мяне могуць забіць».

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# РАСЕЙСКІЯ ЗНІЖКІ НА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ НЕ РАСПАЎСЮДЖВАЮЦЦА?

З 1 СТУДЗЕНЯ 2012 ГОДА БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ КУПЛЯЦЬ РАСЕЙСКІЯ НАФТУ І ГАЗ ПА НОВЫХ КОШТАХ. ПАГАДНЕННЯ АБ УМОВАХ ПАСТАЎКІ ЭНЕРГАНОСЬБІТАЎ БЫЛІ ПАДПІСАНЫЯ Ў КАНЦЫ ЛІСТАПАДА МІНУЛАГА ГОДА Ў МАСКВЕ.

Так, за газ Беларусь будзе плаціць у сярэднім 165,6 даляра за тысячу кубаметраў. Гэта на 32,5% менш кошты, па якой Беларусь купляла газ у 2011 годзе (244 даляры) і на 40% ніжэй сярэднегадовага кошту, па якой беларускі бок павінен былі плаціць за газ паводле кантракту, але не плаціла.

Цана на газ для Беларусі была ўвязана з продажам пакінутых 50% акцый беларуска-расійскага ААТ «Белтрансгаз» за 2,5 млрд. даляраў. Угода была афармлена 25 лістапада ў Маскве. «Газпром» стаў уладальнікам 100% акцый беларускай кампаніі: першыя 50% акцый ААТ «Белтрансгаз» расейскі газавы манапаліст выкупіў долямі на працягу 2007-2010 гадоў.

Між тым, па разліках экспертаў, нягледзячы на атрыманую зніжку, насельніцтву Беларусі давядзецца плаціць за газ у 1,5-2 разы больш.

Калі ў 2011 годзе насельніцтва плаціла прыкладна па 110 даляраў за тысячу кубаметраў, то з улікам ўваходны кошты ў 165 даляраў і ўсталяванай «Газпромам» нацэнкі у 15,9 даляра кошт тысячы кубоў газу, што рэалізуецца «Белтрансгазам» ўнутры краіны, перавысіць 180 даляраў. Дзяржпрадпрыемства «Белпалівагаз», прадае газ насельніцтву, у сваю чаргу закладзе ў кошт маржу, і ў выніку з улікам ПДВ насельніцтва будзе плаціць нашмат больш. Па папярэдніх падліках, кошт для насельніцтва можа складзі больш як 210 даляраў за тысячу кубоў.

Беларусі таксама ўдалося дамагчыся ад Расеі новых умоў паставак нафты, якія, па разліках ўрада, дазволяць зэканоміць у 2012 годзе прыкладна 700 млн. даляраў. Аднак спецыялісты зноўтакі падкрэсліваюць: цяперашнія нафтавыя зніжкі для расейскіх кампаній, хутчэй за ўсё, не паўплываюць на палітыку беларускага ўрада ў фарміраванні рознічных цэн на паліва ўнутры краіны. Па наяўнай інфармацыі, беларускія ўлады ўжо прынялі рашэнне давесці ўзровень коштаў на нафтапрадукты на ўнутраным рынку да цэн, якія дзейнічаюць у Расіі.

Паводле ацэнкі аналітыка расейскай кампаніі «Капітал» Віталя Крюкава, сярэднерасійскі кошт літра бензіну АІ-92 у перакладзе на беларускія рублі складае 7126 рублёў, АІ-95 - 7650, дызпаліва - 7480 рублёў. Такім чынам, бензін АІ-92 і АІ-95 можа падаражэць для беларусаў амаль на паўтары тысячы рублёў (цяпер літр АІ-92 каштуе 5700, АІ-95 - 6100), дызпаліва - на 1200 рублёў (6300). Зрэшты, як лічаць аналітыкі, раздробныя кошты на аўтамабільнае паліва ў Беларусі будуць расці «у зберагалым рэжыме».

**Андрэй Кажамякін.**

НАСТУПСТВЫ ПРОДАЖУ

# ГАЗПРАМ КУПІЎ АБСАЛЮТНУЮ ГАЗАВУЮ МАНАПОЛІЮ Ў БЕЛАРУСІ

ПАДРАБЯЗНАСЦІ МІЖУРАДАВАГА ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ГАЗПРАМАМ АБ УМОВАХ ПРОДАЖУ АКЦЫЙ І ДАЛЕЙШАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ААТ «БЕЛТРАНСГАЗ», ДРУГІ ДЗЕНЬ ПУБЛІКУЕМЫЯ РАСІЙСКІМІ СМІ, ПЕРАКАНАЎЧА АДКАЗВАЮЦЬ НА ПЫТАННЕ, ЗА ШТО ГАЗПРОМ ВЫКЛАЎ УСЯГО $ 5 МЛРД.

Гаворка ідзе не аб банальнай куплі Белтрансгаза як рознічнага прадаўца газу на тэрыторыі асобна ўзятай краіны ў цэнтры Еўропы, а аб набыцці расійскай кампаніяй у манапольнае валоданне ўсёй газавай галіны Беларусі, прычым з невялікім, але вельмі адчувальным уварваннем у сферу электраэнергетыкі.

Па-першае, Газпрам выразна абгаварыў блок палітычных умоў здзелкі, парушэнне якіх з боку Беларусі дае расейскай газавай манаполіі права патрабаваць ануляванне здзелкі і вяртання $ 5 млрд. даляраў, а таксама кампенсацыі страт, якія ўзніклі ў гэтай сувязі.

Па-другое, у прыватнасці, Беларусь абавязалася не ўводзіць залатую акцыю і іншыя адміністрацыйныя меры, якія парушаюць або ўшчамляюць правы ўладальніка Белтрансгаза; не дапускаць несанкцыянаванага адбору газу, транспартуецца праз тэрыторыю РБ, і забяспечваць бесперашкодны і бесперабойны транзіт расійскага газу, уключаючы адмова ад змены ўмоў карыстання зямельнымі ўчасткамі пад газаправодам Ямал - Еўропа.

Па-трэццяе, акрамя гэтага, улады РБ ўзялі на сябе абавязацельства не ажыццяўляць перапродаж расійскага газу трэцім краінам. У эканамічнай частцы бакі дамовіліся, што за Белтрансгазам захаваецца функцыя аператара газаправода Ямал-Еўропа, а таксама абавязкі па будаўніцтве і развіццё газаправодаў і звязаных з імі аб'ектаў, а таксама аб'ектаў падземнага захоўвання газу ў Беларусі.

Па-чацвёртае, акрамя гэтага, улады РБ вызвалілі Белтрансгаз ад 30% абавязковага продажу валютнай выручкі (за транзіт), што сама па сабе не акажа ніякага ўплыву на валютны рынак краіны, паколькі Белтрансгаз быў, ёсць і будзе галоўным спажыўцом валюты ў краіне. Аднак Беларусь, нягледзячы на ўсе спробы дэдаларызацыі эканомікі, абавязалася забяспечыць такія ўмовы, каб беларускія прадпрыемствы разлічваліся за газ з Белтрансгазам у замежнай валюце (за выключэннем мясцовай нацэнкі і ПДВ).

Па-пятае. Асоба варта адзначыць яшчэ адна ўмова продажу Белтрансгаза, якая дэ-факта пазбаўляе Беларусь магчымасці задзейнічаць альтэрнатыўнага пастаўшчыка газу і аўтаматычна, паколькі Газпром атрымаў ва ўласнасць ўсе газавыя трубы Беларусі, ставіць крыж на ўсіх дыскусіях аб магчымым імпарце звадкаванага газу ў краіну.

Згодна з дакументам, Белтрансгаз атрымаў выключнае права на закупку прыроднага газу, які вывозіцца з тэрыторыі Расіі і прызначаецца для спажыўцоў Беларусі.

Па-шостае. Акрамя поўнай манапалізацыі паставак газу ў РБ, Газпром выбіў пад сябе яшчэ адзін эксклюзіў, які дзейнічае да 1 студзеня 2015 года: экспарт за межы Мытнага саюза электраэнергіі, выраблenай на расійскім газе. Са свайго боку Газпром, у дадатак да пералічаных $ 5 млрд., паабяцаў забяспечыць максімальную загрузку транзітных газаправодаў.

КОШТЫ

# У ЯКІХ РЭГІЁНАХ БЕЛАРУСІ ТАННЕЙ ПРАКАРМІЦЦА?

ЯЛАВІЧЫНУ ТАННЕЙ КУПЛЯЦЬ У ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, ЗА НЯТЛУСТЫМ ТВАРАГОМ ВАРТА ПАЕХАЦЬ У ГОМЕЛЬСКУЮ, А ЖЫТНІМ ХЛЕБАМ ЗАПАСАЦЦА У МАГІЛЁЎСКАЙ. ХАРАКТЭРНАЙ АСАБЛІВАСЦЮ РОСТУ ЦЭН У БЕЛАРУСІ СТАЛІ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ДЫСБАЛАНСЫ.

Кошты на некаторыя прадукты адрозніваюцца ў розных рэгіёнах Беларусі ў 1,5-2 разы, а то і больш. Але масавай скупкі тавараў у адных рэгіёнах для продажу ў іншых не назіраецца. Хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра розніцу ў асартыменце прадуктаў, кошты на якія ўлічвае Белстат, што дазволіла па выніках года «асераднiць» кошты па краіне ў бок змяншэння.

**Прасяная галаваломка**

У прыведзеных Белстатам па выніках года даных аб азначніках росту цэн на асобныя прадукты харчавання здзіўляе адсутнасць значнага колькасці тавараў з трохразовым ростам - усяго-то менш 10 пазіцый з больш чым 170. Хоць кашалькі беларусаў відавочна адчувалі іншыя прапорцыі. Напрыклад, аказалася, што індэкс росту цэны на проса склаў усяго 262%. А яшчэ летам фіксаваўся рост у 4 разы. Проса потым таннела, але відавочна не так моцна.

Аднак сітуацыя змяняецца, як толькі ад даследаванні індэксаў мы пераходзім да простага дзяленню абсалютных цэн у снежні 2011 (таксама па дадзеных Белстата) на цэны ў снежні 2010 года. Колькасць прадуктаў, рост коштаў на якія перавысіў тры разы, ужо больш за трыццаць. Рост жа цэны на проса ў такім немудрагелістым падліку складае 3,7 разы.

Але і гэта, аказваецца, яшчэ не мяжа. У рэгіянальным разрэзе з'яўляюцца ужо іншыя лічбы. У Гомельскай вобласці цана на проса за год вырасла ў 4 разы, а ў Гродзенскай - у 5,3 разы!

У выніку ў снежні 2011 года цана на проса ў рэгіёнах адрознівалася амаль у 2 разы (у 1,9). Самая танная крупы ў Мінску - 7087 рублёў, а самая дарагая - у Гродзенскай вобласці - 13.635 рублёў.

Дарэчы, менавіта ў Гродзенскай вобласці год таму проса было самым танным. Вось чаму і рост такі бурны. Самым жа дарагім у мінулым годзе проса было ў Магілёўскай вобласці, а сёння яно там чаму-то на 1700 рублёў таннеей, чым у Гродзенскай вобласці.

Куды паехаць за мясам?

Гродзенская вобласць здзіўляе не толькі самым дарагім просам і какава, але і самай таннай ялавічынай.

Паводле дадзеных па індэксах росту на ялавічыну першай катэгорыі, у цэлым па краіне ён склаў 271%. Калі ж падзяліць абсалютныя значэння цэн, то рост складае ўжо 3,2 разы. Самы высокі рост коштаў на ялавічыну першай катэгорыі адзначаны ў Віцебскай вобласці - 4,2 разы і тут, як і варта было чакаць, самая высокая цана - 56667 рублёў за кілаграм.

Самы нізкі рост коштаў у Гродзенскай вобласці - 1,7 разы і ў выніку зафіксаваная Белстатам у снежні кошт за кілаграм ялавічыны тут ўсяго 23 530 рублёў. Выходзіць, сярэднія кошты ў Віцебскай і Гродзенскай абласцях адрозніваюцца адзін ад аднаго ў 2,4 разы.

Гродзенцам, каб «спекульнуць» на такім дысбалансе, далекавата ехаць у Віцебскую вобласць, але ж побач - Брэсцкая з сярэдняй цаной на ялавічыну ў 48 000 рублёў. Таксама нядрэнны навар. Ды і ў Менску цана на 17 тысяч вышэй - 40776 рублёў.

У сталіцы самыя дарагія паўфабрыкаты з ялавічыны - у снежні 2011 года ў Мінску цана составила74 656 рублёў, гэта значыць амаль удвая вышэй, чым на ялавічыну з косткамі. У Гродзенскай вобласці цана на паўфабрыкаты больш чым на 20 тысяч ніжэй - 52 480 рублёў. Але самай нізкай апынулася кошт у Мінскай вобласці - 51 225 рублёў. Так што мінчанам проста трэба сесці ў машыну і трохі ад'ехаць ад Мінска, каб зэканоміць.

**Цэнавыя берагі малочных рэк**

Нядрэнна можна «падняцца» і на малочных прадуктах. Рэгіянальныя адрозненні ў цэнах складаюць па дадзенай групе два разы, а то і больш.

Тут ужо Мінск па-за канкурэнцыяй - тут у снежні мінулага года былі самыя высокія цэны на малако, кефір, тварог тлусты і нятлусты. У «мінімалістам» ізноў Гродзенская вобласць з самымі таннымі малаком, кефірам і смятанай (розніца з Менскам - 1,9-2 разы).

Тварожная група мяняе лідэраў. Самая нізкая цана на тварог тлусты - у Брэсцкай вобласці - 15 765 рублёў і гэта больш чым на 10 тысяч рублёў за кілаграм ніжэй, чым у Мінску - 25.997 рублёў. А вось нятлусты тварог самы танны ў Гомельскай вобласці - 8.650 рублёў. У Менску аб такім кошце даўно ўжо забыліся. Тут у снежні цана на тварог нятлусты складае 24478 рублёў, гэта значыць у 2,8 разы вышэй, чым у Гомельскай вобласці.

Цяжка ўявіць, што такое магчыма ў краіне, дзе перавезці тавар з адной вобласці ў іншую не ўяўляе адмысловай працы.

Затое такія, відавочна выбіваюцца з агульнага ладу, цэны вельмі дапамагаюць паказваць больш плаўны рост коштаў па краіне ў сярэднім. Дарэчы, па індэксе ў сярэднім цэны на малочную групу змяніліся за год у 1,7 разы, па нашых падліках - у 2 разы, у Мінску - у 2,3-2,6 раза.

**Ірына Арлова, «Завтра твоей страны» (у скарачэнні).**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742

**Падпісана да друку 26.01.2012 у 19.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.